

Сербалужычанкі з Будзішына ў нацыянальных касцюмах.
Фота Р. Дварачэк.

№ 19 (1135) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 13.V.1979 г.

## КІРМАШ

*На станцыі грузяць каштоўны багаж.*
*Яго павязуць на вясковы кірмаш.*
*Чакаюць багаж пад паветкай прылаўкі*
*Хутчэй падавайце заказы, заяўкі*
*На казкі, на вершы, на апавяданні!*
*Яшчэ даручаем такое заданне:*
*Сяброў запрасіце на кніжны кірмаш,*
*Бо гэты каштоўны багаж — увесь наш.*

**Ніна Галіноўская**





## РАКЕТА

*Я зраблю ракету,*
*Назаву „Планетай“.*
*Завяду „Планету“ —*
*Палячу над светам.*
*Я ва ўсіх краінах*
*Пабываць павінна.*
*З дзецьмі пасябрую,*
*Казкі падарую.*
*І сама, вядома,*
*Казак назбіраю,*
*Прывязу дадому —*
*Дзецям іх прабаю.*

**Ніна Галіноўская**

## МОЙ КРАЙ

Мой край задумлівы, журботны,
З чаромхай белай ля ракі,
З бярозкай ціхай і пяшчотнай,
З азёрамі, як васількі.
Мой край — дзяўчаты-прыгажуні,
Тут што ні кветка — то і верш.
Тут па снягу, нібы па рунях,
Зімою басанож ідзеш.
Мой край — рамонкавае поле,
Баянаў звонкі перабор.
Мой край — бяскрайняе раздолле,
І медуніца, і чабор.
Ён за цвітучымі садамі
Наводзіць хараство сваё.
Яго нікому не аддам я,
Таму што ён — жыццё маё.

* * *

Для шчасця нарадзіўся чалавек,
Жыццё зрабіць прыгожым на планеце.
Хай будзе мірным атамны наш век,
Ніколі хай не паміраюць дзеці!
Я нашым мірным небам даражу,
Жыццё я не ў ружовым бачу свеце.
З усіх зямных даброт адно прашу:
— Ніколі хай не паміраюць дзеці!

**К. Кункевіч**

**Х. Гюльназаран**

# У САДЗЕ

Бацька капаў зямлю ў садзе. Лапата на імгненне бліснуўшы пад сонцам, зноў урэзвалася ў зямлю.

Бацька капаў так лёгка! Ара не зводзіў з яго вачэй. „Няўжо і я змог бы так?“ — думаў Ара.

— Катот, як ты думаеш, змагу я капаць? — спытаў ён.

Катот нават вухам не паварушыў. Ён наглядаў за курамі, што збіралі чарвякоў.

— Тата, можна, і я буду капаць? — зноў спытаў Ара.

— Ты яшчэ маленькі, — адказаў тата.

— Не, не маленькі. Вось лялька Цогік маленькая, а я ўжо вялікі.

— Не, Ара, табе будзе цяжка.

— І зусім не цяжка. Што тут цяжкога? Жжык — і лапата ў зямлі!

Тата засмяяўся.

— Хадзі паспрабуй!

„Лёгка сказаць „хадзі“, калі на дарозе ляжаць такія вялізныя глыбы зямлі“, — падумаў Ара. Аднак пайшоў. Дзіўныя гэтыя глыбы! Здаецца, яны цвёрдыя, а ступіш на іх — адразу развальваюцца.

Ара стаў на вялізную глыбу, і яна рассыпалася.

— Ой, я ўпаў! — крыкнуў ён.

Катот радасна забрахаў і падбег да яго. Яму здалося, што Ара забаўляецца.

Падышоў тата.

— Значыць, хочаш капаць? — спытаў ён.

— Хачу! — цвёрда адказаў Ара.

— Тады бяры лапату.

Ара спрабаваў узяць лапату і не змог: вельмі ж яна цяжкая была.

Тата сам падняў лапату і сказаў:

— Ну, стань на яе!

Ара, моцна трымаючыся за ручку, стаў на лапату.

— Цісні, — сказаў тата.

— А я і так цісну, тата.

— Ідзе ў зямлю?

— Не, не ідзе.

— Бачыш, я ж кажу — не зможаш. Гэта нялёгкая праца: каб капаць зямлю, трэба быць дужым. Вось вырасцеш, тады...

— Дык што ж мне цяпер рабіць? — засмуціўся Ара.

— Знойдзем для цябе работу, — усміхнуўся тата. — Вунь каля плота стаіць вядро. Бачыш?

— Бачу.

— У вядры вапенная вада і шчотка. Вапеннай вадой трэба абмазваць ствалы яблынь, каб вусеняў не было. Зможаш?

— Змагу! — узрадаваўся Ара.

— Ну, пачынай.

— Да якой вышыні абмазваць?

— Якраз да твайго носа. Ды глядзі, нос не абпырскай.

Ара ўзяў вядро і пачаў старанна абмазваць ствол яблыні. Катот скакаў на яго, а хлопчык злаваўся:

— Не перашкаджай, Катот! Гэта ж праца! Каб працаваць, трэба быць дужым, а ты яшчэ малы, Катот!

**З армянскай**



**С. Косаў**

# ЛАСТАЎКА

Усё мінулае лета ў сенцах пад страхой жыла ластаўка, белагрудая востракрылая птушачка. Прачыналася яна рана, як толькі першы праменьчык, чырвоны і доўгі, дакранаўся да яе гнязда, прымацаванага да бэлькі. Птушачка выскаквала з гнязда, насілася пад страхой, торапка шчабятала, быццам скаржылася, што спазнілася на працу.

Дуняшка спала ў сенцах і будзілася ад яе крыку. Птушачка вылятала з прахалодных сенцаў праз маленькае аконца, а Дуняшка бегла хутчэй на ганак грэцца на сонейку.

Да канца лета ластаўка вывела двух птушанят, а восенню пакружылася з імі над хатай і паляцела. Апусцела яе гняздо.

— Давай, Дуняшка, перасяляцца ў хату спаць, — сказала бабуля. — Адляцела ластаўка — скончыліся цёплыя дні.

— Дзе яна цяпер?

— У выраі, у цёплых краінах, за марамі-акіянамі.

— А што, там лепш?

— Там зімы не бывае.

— Там заўсёды лета і лета? Трава, і ў рэчцы купаюцца? — засумнявалася Дуняшка.

— Вядома, так. А ластаўка мушак ловіць.

— Не прыляціць яна да нас, — сказала Дуняшка.

— Чаму?

— Там лепш.

— Прыляціць, — супакоіла бабуля. — Пераджывем зіму, вясна прыдзе. Пакліча яе родная старонка.

Прайшла зіма з завірухамі, марозамі. Дуняшка не заўважыла, як яна прайшла: гуляла з сяброўкамі, каталася з узгорка Векуна, грэлася на цёплай печцы.

Надышла вясна. Пацяклі, заблішчэлі на вуліцы ручаі; па нізінах, долах павалілі грымучыя снегавыя воды. Усё ярчэй і ярчэй разгараліся дні, сінела і ўзнімалася неба. Узгорак Вякун паказаў з-пад снегу чорную макаўку. Хмарамі кружыліся гракі над старымі лозамі. Ляцелі ў небе і іншыя птушкі, вясёлыя, нястрымныя.

Сярожка, Дуняшкін брат, узняў над варотамі жэрдзіну са шпакоўняй. Дуняшка ўспомніла аб сваёй ластаўцы і забаялася, каб яна хоць не забылася, дзе яе гняздо, і не праляцела далей.

— Трэба на гарышчы аконца адчыніць, — спахапілася яна.

Палезла на гару. Бач, як тут зіма нагаспадарыла. Як тут ластаўцы жыць! Дуняшка прыбрала гарышча, вымыла аконца, расчыніла яго, замацавала, каб ветрам не



разбіла. Засвяцілася аконца, стала вясёлае, прыветнае.

Прыбегла Дуняшка да бабулі.

— Бабулька, бабулька! Я для ластаўкі аконца адчыніла! —

— Ах ты, мая разумніца! Ах, разумніца! — пахваліла бабуля. — Трэба цяпер пірагоў напячы.

Пачала бабуля пірагі пячы. — Да аднаго піражка бабуля прычапіла кавалачак цеста — быццам птушыная галоўка, адцягнула носік, зрабіла макавымі зярняткамі вочкі. З двух бакоў прарэзала шчылінкі — быццам крыльцы.

— Ідзі на Вякун, кліч сваю ластаўку.

— А як?

— Падкідвай піражок і крычы: „Ластаўка, ластаўка, вясна прыйшла, хутчэй прылятай!“

— А яна пачуе?

— Павінна пачуць.

— А ты казала: яна за марамі-акіянамі.

— Цяпер вясна, пачуе.

Паклікала Дуняшка сваю сяброўку Таню, каб галасней крычаць.

Дзяўчынкі ўзышлі на самую вяршыню. Тут зямля маладая, пахучая. Нарадзіліся доўгія шызыя травінкі, і чырвоныя мошкі лазілі па іх. А ўверсе такая сінява, глыбіня — вочы тонуць. І ляцяць, ляцяць птушкі. Усялякія. Вялікія і маленькія. Ляцяць па адной і статкамі. Не пазнаць ластаўкі! Дзе яна?

— Трэба клікаць яе, — сказала Дуняшка.

Убачыла яна далёка ў сіняве жывую кропачку, выцягнула з-за пазухі піражок, падкінула і крыкнула:

— Ластаўка, ластаўка, вясна прыйшла, хутчэй прылятай!

Высока праляцела птушачка, не павярнулася на голас, не спынілася.

— Давай, Таня, разам клікаць. Галасней будзе.

Зноў убачылі птушачку. Зноў падкінулі піражок. Закрычалі-заспявалі на ўсю моц:

— Ластаўка-ластаўка!..

Дуняшка нават выдумала новыя словы:

— Вунь тваё аконца, там тваё гняздзечка!



Птушкі ляцелі і ляцелі. Цягнула іх нястрымная сіла. Піражок столькі раз падкідвала — аж пачаў ён ламацца. Дуняшка з Таняй з'елі яго і пайшлі дадому.

Травой пакрылася зямля. Зацвілі акацыі, бэз у гародчыках. Ажылі мурашкі, камары запішчалі.

Выйшла неяк Дуняшка ў сенцы, а пад страхой насіцца белагрудая, востракрылая, з раздвоеным хвастом птушачка. І пішчыць-верашчыць, з усім домам вітаецца.



# ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ



## КОЎДРЫ ДЛЯ АВЕЧАК

У Аўстраліі ў першы месяц пасля стрыжкі поўсці ад холаду гіне каля аднаго мільёна авечак. У лабараторыі жывёлагадоўлі страты авечак мерыносавай пароды ўдалося скараціць у 10 разоў! На жывёл надзяваецца коўдра з тонкай поліэтыленавай плёнкі. Плёнку нават не трэба здымаць: праз некалькі тыдняў яна зношваецца і сама спадае. Коўдра павышае тэмпературу на 9 градусаў.

## ДЗЕ ЗЛАВІЛІ ТАКІХ ШЧУПАКОЎ

Самы вялікі шчупак у свеце злоўлены сеткай у 1947 годзе на возеры каля Хельборна (Германія). На рыбе было металічнае кальцо, памечанае 1680 годам. Такім чынам, шчупак пражыў 267 гадоў. Ён быў амаль пяць метраў даўжыні, важыў 145 кілаграмаў. Касцяк рыбы і знойдзенае на ім кальцо захоўваюцца да гэтага часу.

У Расіі самы вялікі шчупак быў злоўлены ў час ачысткі сажалак пад Масквой у XVIII стагоддзі. Важыў ён 66 кілаграмаў, а даўжыня яго перавышала 2 метры. На жабрах шчупака знайшлі залатое кальцо з надпісам: „Пасадзіў цар Барыс Фёдаравіч“.

## ЭЛЕКТРЫЧНАЕ ДРЭВА

Нядаўна адзін вучоны адкрыў у Індыі дрэва, якое мае дзіўную ўласцівасць. Лісце гэтага дрэва вельмі далікатнае і так моцна зараджана электрычнасцю, што пры дотыку да дрэва атрымліваецца электрычны ўдар. Дрэва таксама аказвае ўплыў на магнітную іголку, якая пачынае хістацца за 20 метраў ад яго. Вучоныя адзначылі, што электрычнае напружанне гэтага дрэва на працягу дня некалькі разоў мяняецца. Мацней за ўсё яно бывае каля поўдня, а слабей за ўсё — апоўначы. У сырое надвор'е гэтых з'яў не назіраецца. Птушкі ніколі не садзяцца на электрычнае дрэва, і насякомыя пазбягаюць яго.

## РЫБА-МУЗЫКАНТ

Музыкальнай рыбай называюць аральскія рыбакі самоў. Але гэтую рэдкую „здольнасць“ мае не голас, а скура самоў. Высушаная і апрацаваная амаль у празрыстую, пругкую і звонкую плёнку, яна служыць матэрыялам для вырабу дэк многіх усходніх інструментаў — дутараў, дойраў, рубобаў.

## СУТЫКНЕННЕ З ЖУКАМІ

Савецкі танкер „Браціслава“ ішоў па Атлантыцы. Раптам на экране радара з'явіўся адбітак незразумелай перашкоды, а вахтавыя паведамілі пра набліжэнне нейкага цёмнага шара. На судне аб'явілі трывогу, сцішылі ход і задраілі ілюмінатары. Праз некалькі мінут адбылося сутыкненне з вялізнай хмарай чорных жукоў. Яны засыпалі палубу і надбудовы, пакрылі іх тоўстым слоем. Цэлы дзень спатрэбіўся экіпажу, каб пазбавіцца ад непрыемных гасцей.

## ПАСПЯВАЕМ РАЗАМ

### На тое ж я ручай




**Словы А. Бачылы**
**Музыка Ю. Семянякі**

Бягу, бягу да мора я,
Мяне ты там страчай:
Я ўсё, усё агораю,
Я — сын вясны, ручай.

Брат ручаям, што поначы
Трывожаць цішыню,
Я ім сігналам помачы,
Каб чулі ўсе, звіню.

Звіню, каб не стаміліся,
З бядой не мелі спраў,
Каб са шляхоў не збіліся,
Каб нехта не адстаў.

Калі хто страціць вывучку
І трапіць у бяду,
Я сам тады на выручку,
Як брату брат, іду.

Ім ручаінку скабамі
Пракладваю сваю,
Сіл пазычаю слабаму,
Сасмаглага паю.

Раблю дабро — не каюся;
Пачуўшы: „Выручай!“,
Я тут як тут з'яўляюся:
На тое ж я ручай.

Не знаюся са змораю,
Бо маю гнуткі стан,
Бягу — уліцца ў мора я,
А там — і ў акіян.

А покуль — міла хвалямі
Трывожу цішыню:
Усім, хто мроіць далямі,
Звіню, звіню, звіню.

## Пазнаёмімся

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 14, кв. 28. Лена Іўкіна, 9 гадоў.

* ✲ *

Аліцыя Прычыніч, 16 год, Гайнаўка 17-200, вул. Лесьна, 10а.

* ✲ *

СССР, Крым, г. Севастополь, п/о Орлиное, ул. Макарова 6. Савченко Алёне. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, Крым, г. Севастополь, п/о Орлиное, ул. Подлесная 15. Цымболюк Лиле. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Маці памыла кашулю і кажа Міхалку:

— Ідзі, сынку, павесь на сонейку.

Міхалка ўзяў кашулю, але хутка вярнуўся, трымаючы яе ў руках.

— Чаму ж ты не павесіў?

— Не дастаў да сонейка.

* ✲ *

Малы Барыска пытаецца ў Юркі:

— А чаго ты ў школу ходзіш?

На гэта Юрка:

— Бо школа да мяне не прыдзе.

* ✲ *

Дзядзька: „Пеця, ты прачытаў ужо кніжку, якую я табе прынёс?“

Пеця: „Яшчэ не.“

Дзядзька: „Чаму?“

Пеця: „Бо мне мама ўвесь час гаворыць, каб я спачатку рукі памыў“.

* ✲ *

Тата і мама вырашылі, што малы Пятрусь павінен самастойна хадзіць у прадшколле. Але гэта для яго не такая простая справа. Дарога далёкая. Тата непакоіцца, што Пятрусь заблудзіцца. Таму ён вучыць сына: „Мяне завуць Пятрусь Кошаль, я жыву ў Беластоку, вул. Ліпова 35“. Хлопчык гэта паўтарае. За хвілінку тата зноў хоча ведаць, як хлопчыка завуць. Пятрусь адказвае. Тады тата трэці раз пытаецца пра тое самае. Пятрусь зноў адказвае, а потым, павярнуўшыся, дадае: „I чаму тата не можа запамятаць?“

**І. Курбека**

## МАМЕ ДАГАДЗІЎ

Крыкнуў хлопчык урачыста:
— З'еў усё я — ура! — чыста!

**Ул. Мацвеенка**

## ЗАГАДКІ

Дзеці кніжкі вельмі любяць,
А мяне скубуць усе,
Без віны штодзённа чубяць.
Я танчэю пакрысе,
Ды ніколі не злуюся,
Бо ў мяне цудоўны дар.
Адгадайце, як завуся?
Мяне клічуць . . . . . . . .



## АДГАДАНКА





Гэтую геаметрычную фігуру трэба раздзяліць на чатыры роўныя часткі. І каб у кожнай з іх былі птушка, вожык, вавёрка і рыбка.

Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.